***«Іх кайданы і нянавісць разаб'юцца аб нашы танцы, песні і смех».***

**Марыя Калеснікава**



**ЯК ДАПАМАГЧЫ ДЗЕЯЧАМ І ДЗЯЯЧКАМ КУЛЬТУРЫ**

**падтрымайце кампанію Save Our Songs**

# 1. ПЕРАСЛЕД, ПРЫСУДЫ, КУЛЬТУРНАЯ ПАЛІТЫКА




**Культурна-асветніцкае аб'яднанне палякаў Беларусі Poloniczka** ліквідаванае за «дзейнасць, якая супярэчыць статуту, і распаўсюджванне яе супрацоўнікамі інфармацыі, якая дыскрэдытуе Беларусь».

Міжанродны кінафестываль «**Лістапад**», які праходзіць штогод з 1994, сёлета будзе праводзіць «Беларусьфільм», а не Цэнтр візуальных мастацтваў Art Corporation. Летась «Лістапад» быў адменены «праз неспрыяльнае эпідэміялагічнае становішча», пра што арганізатары даведаліся са смі.







Судовае пасяджэнне па ліквідацыі **Беларускага ПЭН-цэнтра** перанесена на 9 жніўня.

Кліп гурта «**Дай дарогу!**» «Баю-бай» прызнаны экстрэмісцкім матэрыялам. Гурт пакуль што закрыў доступ да яго, а саліст **Юры Стыльскі** пакінуў Беларусь.





**Універсітэт імя Ніла Гілевіча**, зарэгістраваны ў 2018 як прыватная навучальная ўстанова, ад 1 жніўня спыніў сваё існаванне па рашэнні Мінюста.



**16 чалавек, сярод якіх удзельнікі беларускага музычнага фэнтэзі-фолк-гурта «Irdorath» падчас святкавання дня народзінаў 3 жніўня затрымалі ўзброеныя людзі. Уладзімір Калач, Надзея Калач, Пётр Марчанка, Юлія Юніцкая, Павал Шмыга, Антон Шніп і Зміцер Шымансkі праходзяць у якасці падазраваных па артыкуле 342 КК – *«Групавыя дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак»*: мінулым летам музыкі гралі падчас нядзельных маршаў. Марыя Падаляк, Аляксандр Сінкевіч, Дзмітрый Шымансkі, Яўген Срэценскі, Міхаіл Аракчэеў і Аляксей Палаўчэня былі арыштаваныя на 15 сутак.**





**Уладзіміра Мацкевіча, філосафа і метадолага, стваральніка сучаснага ўніверсітэта ў Беларусі «Лятучы ўніверсітэт», і Таццяну Вадалажскую, метадолага і сацыёлага, каардынатарку «Лятучага ўніверсітэта», затрымалі 4 жніўня пасля вобшуку, праведзенага КДБ. Яны знаходзяцца ў СІЗА КДБ. Уладзіміра Мацкевіча падазраюць у арганізацыі ці ўдзеле ў дзеяннях, што парушылі грамадскі парадак.**





**Новыя прысуды па «карагоднай справе»: 11 чалавек атрымалі ад 2 да 3 гадоў «хіміі» і «хатняй хіміі», адзін – Ігар Лаптовіч – 2.5 гады калоніі. 7 з 12 падсудных цалкам не прызналі віну.**

Андрасюк Арцём Аляксандравіч — 2 гады «хіміі» (віну не прызнаў);
Бірукоў Аляксей Валер'евіч — 2 гады «хатняй хіміі» (часткова прызнаў віну);
Бірукова Таццяна Юр'еўна — 2 гады «хатняй хіміі» (часткова прызнала віну);
Дзягцярык Сяргей Васільевіч — 2 гады «хатняй хіміі» (часткова прызнаў віну);
Дзям'янка Дар'я Васільеўна — 2 гады «хатняй хіміі» (не прызнала віну);
Касцюк Андрэй Пятровіч — 3 гады «хіміі» (не прызнаў віну);
палітзняволены Лаптановіч Ігар Анатольевіч — 2,5 гады калоніі (не прызнаў віну);
Лаптановіч Юлія Аляксандраўна (жонка Ігара) — 3 гады «хатняй хіміі» (не прызнала віну);
Макарэвіч Уладзімір Віктаравіч — 2,5 гады «хіміі» (не прызнаў віну);
Парфеевец Андрэй Аляксеевіч — 2 гады «хатняй хіміі» (часткова прызнаў віну);
Пяцінкін Канстанцін Паўлавіч — 2 гады «хатняй хіміі» (прызнаў цалкам віну);
Шыла Наталля Уладзіміраўна — 2,5 гады «хіміі» (не прызнала віну).





**Да Дзмітрыя Дзмітрыева, фатографа «Новага Часу», 5 жніўня прыйшлі сілавікі, пасля яго арыштавалі на 15 сутак.**

**Улады распаўсюджваюць дакумент**, у якім сабраныя імёны каля 400 асобаў, што выказаліся супраць фальсіфікацый і гвалту, звольніліся ў знак пратэсту, удзельнічалі ў забастоўцы ці выказвалі сваю нязгоду іншым спосабам, заклікаючы не браць гэтых людзей на працу. Таксама распаўсюджваюцца іх асабістыя звесткі.



**Сяргей Верамеюк**, музыка, якога ў чэрвені асудзілі на 15 сутак, затрымаўшы за дзень да абароны дыплома, пакінуў Беларусь. На 9 жніўня ў яго была позва ў ваенкамат.

**Ігар Банцэр** змешчаны ў штрафны ізалятар на 10 сутак за «парушэнне рэжыму».





Са школьнай праграмы па рускай літаратуры для 11 класаў прыбралі **нобелеўскую лаўрэатку Святлану Алексіевіч**.
Яе імя цяпер не згадваецца ў пераліку «рускамоўнай літаратуры Беларусі». Таксама ў новай праграме адсутнічаюць творы іншага нобелеўскага лаўрэата – Аляксандра Салжаніцына, які пісаў пра ГУЛАГ.

# 2. ЖЫЦЦЁ Ў НЯВОЛІ

Віктар Бабарыка, мецэнат культуры Беларусі, бізнэсовец, палітык, палітзняволены, у Наваполацкай калоніі працуе апальшчыкам у пякарні – гэта значыць, ён падкладвае дровы ў печ.







Марыі Калеснікавай у СІЗА прапаноўвалі выступіць на БТ з інтэрв’ю накшталт таго, якое знялі з Раманам Пратасевічам. Марыя адказала, што пагадзілася б даць інтэрв’ю супрацоўніку АНТ Марату Маркаву пры ўмове, што яна раскажа «шакавальную праўду пра выкраданне, следства і беззаконне ў турме».

# 3. ТВОРЧЫ СУПРАЦІЎ І КУЛЬТУРНЫ АКТЫВІЗМ




**Выдавецтва «Янушкевіч» анансавала выхад перакладу трэцяй кнігі прыгод Гары Потэра – «Гары Потэр і вязень Азкабана».**



**<u>Выйшла</u> кніга «Не адчайваемся» Васіля Грыня – чытаючы яе, адкрываеш розныя бакі беларускай душы.**








**Выдавецтва «Янушкевіч» запусціла ў продаж новы наклад кнігі «Сабакі Еўропы» Альгерда Бахарэвіча, якая з 8 красавіка знаходзілася на экспертызе на прадмет наяўнасці ў ёй «прыкмет экстрэмізму».**



**<u>Анлайн-сустрэча</u> з пісьменнікам і сябрам Беларускага ПЭНа Альгердам Бахарэвічам адбылася 4 жніўня на запрашэнне беларусаў Шатландыі ды Скарынаўскага кніжнага клуба.**





Беларусы
вачамі мастачкі vera.bei



Партрэт Віталя Шышова
ад ананімнага мастака.




Малюнак пра сітуацыю з беларускай легкаатлеткай Крысцінай Ціманоўскай, якую беларускі НАК хацеў гвалтоўна выслаць з Токіа ў Беларусь.

У новым выпуску YouTube-перадачы «Каля культуры» Мікіта Моніч распавёў пра першых беларускіх музейшчыкаў.









Гурт «Гарадскі Вал» прэзентуе трэк, прысвечаны Марыі Калеснікавай, музыкам усіх дваровых канцэртаў і Аляксею Санчуку.



Маргарыта Ляўчук чытае верш Ганны Златкоўскай пра тугу па дому, куды немагчыма пакуль вярнуцца.






Прэм’ера песні і кліпа гурта Intelligency «Беларуская малітва».




У Мінску запусцілі праект пра любоў да роднага горада – экскурсіі за «Дзякуй». Кожны тыдзень хлопцы з каманды А-100 праводзяць бясплатныя экскурсіі па самых невідавочных мясцінах горада, распавядаючы пра месцы ды іх гісторыю.




Канцэрт да дня народзінаў мастака Алеся Пушкіна.



Фестываль «Tutaka», які прайшоў 6 і 7 жніўня, – гэта музыка беларускай рэвалюцыі, а таксама спосаб паказаць беларускую культуру і мастацтва ў поўнай разнароднасці.

# 4. ГАЛАСЫ АСОБАЎ



**Марыя Калеснікава з СІЗА заклікала Лукашэнку спыніць гвалт:**
***«Я заклікаю перастаць змагацца з уласным народам, прыслухацца да беларусаў і пачаць новы дыялог. Спыніце гвалт! Спыніце абсурдныя судовыя працэсы! Не разбурайце эканоміку і пасьпяховыя прадпрыемствы! Выпусціце людзей з турмаў!»***



**Альгерд Бахарэвіч:**
***«Рэальнасць маіх раманаў заўсёды нараджалася з жывога кантакту з людзьмі. Беларусы ж і жывуць так, нібы вязні нейкага страшнага, прыдуманага хворым аўтарам тэксту. Крывая, вусцішная рэчаіснасць, абсурд і злосны смех на кожным кроку.***
***Якой яшчэ мусіць быць літаратура, народжаная тут?»***



**Кацярына Андрэева:**
***«Мая задача – захаваць душу ад распаду і не дазволіць зоне пракрасціся ў мяне. Не стаць часткай выродлівага [турэмнага сьвету], а зрабіць трохі больш цудоўнай прастору вакол сябе».***



**Максм Знак у інтэрв'ю з-за кратаў:**
***«Год таму я шмат працаваў дзеля дабра і на падставе закону. Таму ў мяне чыстае сумленне наконт вартасці маіх дзеянняў. Ці варта шкадаваць, што ты пайшоў у склеп і выявіў пажар, ці лепш ніколі не адчыняць дзверы і жыць у спакойным няведанні? Гэта не лепш, вядома. Я пра гэта не шкадую».***

# 5. МІЖНАРОДНАЯ САЛІДАРНАСЦЬ

У польскай Galeria Wieża Ciśnień праходзіць выстава «Жыве Беларусь», прысвечаная актуальным праблемам Беларусі.







Польскія музыкі запісалі песню памяці Вітольда Ашурка.

Інтэрв'ю з Ганнай Комар і Дзмітрыем Строцавым ў нарвежскай газеце Klassekampen.





Інтэрв'ю з Вольгай Шпарагай, філосафкай, сяброўкай Беларускага ПЭНа, выйшла ў самай буйной шведскай газеце Dagens Nyheter.




Ett år i Belarus

RÖSTER INIFRÅN EN FOLKRESNING

SVETLANA ALEKSIJEVITJ
ALHIERD BACHAREVIČ
KRYSTSINA BANDURYNA
SASJA FILIPENKO
NADJA KANDRUSEVITJ-SJIDLOVSKAJA
HANNA KOMAR
ANDREJ KUREJTJYK
ULADZIMIR LJANKEVITJ
VIKTAR MARTSINOVITJ
MARYJA MARTYSEVITJ
VALZHYNA MORT
VOLHA SJPARAHA
DMITRIJ STROTSEV
JULIA TSIMAFEJEVA



**Анталогія «Адзін год у Беларусі» на шведскай мове выходзіць у Швецыі. Яе складаюць тэксты (вершы, эсэ, інтэрв'ю ды лісты, напісаныя падчас пратэстаў) 14 беларускіх аўтараў і аўтарак: Святланы Алексіевіч, Крысціны Бандурынай, Альгерда Бахарэвіча, Ганны Комар, Надзеі Кандрусевіч-Шыдлоўскай, Андрэя Курэйчыка, Уладзіміра Лянкевіча, Віктара Марціновіча, Марыі Мартысевіч, Вальжыны Морт, Дзмітрыя Строцава, Юліі Цімафеевай, Сашы Філіпенкі ды Вольгі Шпарагі.**












**Еўрапейская рада перакладчыкаў мастацкай літаратуры (CEATL), Еўрапейская федэрацыя журналістаў (EFJ) і Еўрапейская пісьменніцкая рада (EWC) заклікаюць урады еўрапейскіх краін аказаць падтрымку дэмакратычнаму руху ў Беларусі і забяспечыць неабходную дапамогу творцам.**





**Выстава «Крык сцішаных» адкрылася ў Газе 7 жніўня на знак салідарнасці з беларускімі творцамі, якія супрацьстаяць дыктатуры.**

# 6. ПАВІНШУЙЦЕ ПАЛІТВЯЗНЯЎ З НАРОДЗІНАМІ




**У жніўні 8 чалавек, якія так ці інакш уключаныя ў працэс культурнага развіцця нашай краіны, будуць спраўляць свой дзень народзінаў за кратамі.**

**Гэта Алесь Пушкін, мастак (6 жніўня); Сяргей Ціханоўскі, блогер (18 жніўня); Анатоль Хіневіч, праграміст і бард (19 жніўня); Арцём Такарчук, архітэктар (20 жніўня); Сяргей Волкаў, акцёр (21 жніўня); Мікалай Дзядок, блогер і літаратар, грамадскі актывіст (23 жніўня); Ала Шарко, менеджарка культуры, праграмная дырэктарка Прэс-клуба (24 жніўня) і Ігнат Сідорчык, рэжысёр, акцёр і паэт (25 жніўня).**

**Адрасы, на якія ім можна накіроўваць лісты, – па спасылцы.**

